# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association

P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 351
Год выд. XXXVII

Верасень
1988


# 18-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

(3-5 верасьня 1988 г.)



*Па багаслужбе перад царквой Сьв. Кірылы Тураўскага. Фота А. Дубягі.*

## НОВЫ ХАРАКТАР СУСТРЭЧЫ

Што Сустрэча будзе, агульна бяручы, гэткай удалай ды нагэтулькі новай і сваім духам і ўдзельнікамі, ніхто ня думаў нават спасярод самых аптымістычных арганізатараў. Бадай, наадварот — было цімала сьскептычных выказваньняў ды прадказваньняў. З таго, што адмоўныя прадказваньні ня збыліся, трэба зрабіць выснову: будучыня мае ў сабе схаваныя рэсурсы, будучыні баяцца ня трэба; арганізацыйна-масавыя мерапрыёмствы, калі да іх напорна рыхтавацца, могуць быць прыемнымі неспадзеўкамі.

Арганізатары Сустрэчы папрацавалі добра, добрыя былі й вынікі. Часткава ўдачу абумовіў гістарычна новы час, у якім мы жывём: заходня-ўсходняе распружаньне, амэрыканска-савецкае паразуменьне, гарбачоўская перабудова. Усё гэта ўмагчыміла гэтым разам, упяршыню ў гісторыі Сустрэчаў, удзел суродзічаў з этнаграфічнай Беларусі, зь Беласточчыны. Былі таксама ўдзельнікі з Ангельшчыны, Бэльгіі, Нямеччыны, Гішпаніі, Аўстраліі. З рацыяй зазначалі некаторыя, што Сустрэчы набіраюць характару сусьветных беларускіх зьездаў. Дай Божа!

Трохдзённая праграма прайшла менш-больш як плянавалася, зь няўхільнай, нажаль, у гэткіх выпадках перагружанасьцяй прамоўцамі, інакш кажучы, нястачай часу на выступленьні, прывітаньні й падзякі. Кожны раз мы бачым гэтыя недахопы, абяцаем ад іх вылечыцца, і кожны раз паўтараем...

Арганізатары Сустрэчы яшчэ раз выбачаюцца перад тымі, каго, бясспрэчна, варта было паслухаць, але не давялося, на вялікі жаль, дзеля нястачы часу.

## ДАКЛАДЫ. ВЫСТАЎКА. БАЛЬ

А цяпер, сьцісла, аб ходзе праграмы.

У сыботу папаўдні ўрачыстасьці афіцыйна адчыніла ўступным словам др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады, пажадаўшы, «каб падзеі гэтае Сустрэчы сталіся тымі жыцьцядайнымі зернямі, што ўпадуць на добрую ніву, узыйдуць і дадуць багаты ўмалот. Памагай нам, Божа!».

Адбыліся даклады (сэсію вяла сп-ня Юльляна Грыцук-Мэкарская): «400-годзьдзе Статуту Вялікага Княства Літоўскага» (Васіль Плескач), «Пытаньне рэлігіі ў Статуце ВКЛ» (Алеся Кіпель) і «Сучасны стан у Беларусі» (Янка Запруднік). Сп. Кастусь Акула выступіў з прапановай стварыць фонд імя Ф. Багушэвіча (з нагоды 150-х угодкаў ад нараджэньня, што споўняцца ў 1990 г.) на падтрымваньне адпаведных тэндэнцыяў разьвіцьця беларускай культуры.

З прывітаньнем выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня суарганізатара Сустрэчы, сп. Антон Шукелайць, адзначыўшы ўсё больш сусьветны характар запачатка ванае ў 1952 годзе традыцыі сустрэчаў.

Старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Вітаўт Кіпель, стараньнямі якога быў наладжаны пры ўваходзе ў залю кніжны стэнд, зьвярнуў увагу слухачоў на прысутнасьць у залі пісьменьнікаў Натальлі Арсеньневай, Аляксандры Саковіч, Кастуся Акулы і толькі што прыбылага зь Беласточчыны Сакрата Яновіча з жонкай ды заклікаў набываць іхныя кнігі (з аўтографамі). Др. Кіпель паінфармаваў, што 3-га верасьня — дзень нараджэньня С. Яновіча (1936 г.), у сувязі с чым заля дружна прапяяла яму «Сто год!». На просьбу публікі прамаўляў Сакрат Яновіч, выявіўшы сваю назіральнасьць і пачуцьцё гумару.

У залі на сьценах і сталох былі разьмешчаныя экспанаты мастацкай выстаўкі, ініцыятарам якой была старшыня БІНіМ у Канадзе Івонка Сурвіла ды ў арганізацыі якой узялі актыўны удзел Галіна Русак, Надзя Кудасава і Мікола Шуст. У выстаўцы ўзялі ўдзел, апрача чатырох названых, Юрка Акула, Мікола Дутко, Людміла К. М., Алег Махнюк, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Алекс Сільвановіч, Ст. Тамара, Марыя-Паўля Сурвіла. Экспанаты выстаўкі — малюнкі, разьба, фатаграфіі, інкрустацыя саломкай — вельмі ўзбагацілі атмасфэру.

На выстаўцы, у якой узялі ўдзел восем мастакоў з Амэрыкі й чатыры з Канады, былі багата прадстаўленыя жанры малюнку, скульптуры й фатаграфіі. Шырокі дыяпазон тэхнікі: алей, акрылік, акварэль, графіка, рысунак, дрэварыт. Тэматычна выстаўка ахапіла часы ад раньняй гісторыі Беларусі (Прадслава) да сёньняшніх часоў (Чарнобыль). Вялікая ўвага была

*(Працяг на 3-й б.)*

## RESOLUTION

*unanimously adopted by the 18th Convention of Byelorussians of North America marking the Millennium of Christianity in Bielaruś, the Quatercentenary of the Statute of the Grand Duchy of Lithuania, and the 150th anniversary of the birth of Kastuś Kalinoŭski in Toronto, Ont., Canada, on September 4, 1988.*

Now as authorities in Soviet Byelorussia uncover mass graves of victims of Stalinist crimes and official Soviet publications admit social corrosion, moral decay, and a crisis of Byelorussian culture (russification), we call the attention of the Byelorussian nation, of youth in particular, to the rich historical inheritance of our people. In these times of "reconstruction" of all facets of life in the Soviet Union we should look to our spiritual and cultural roots to repair the damage wrought by decades of Godless experimentations. Further development of the Byelorussian nation should proceed in close contact with Byelorussia's centuries-old cultural patrimony. Only on the native soil of historical heritage can we nurture sound attitudes and cure the uncertainty complex among Byelorussians that has resulted from the Soviet theft, falsification, and destruction of Byelorussia's past.

We call on all Byelorussians as well as Canadians and Americans of Byelorussian descent to devote their efforts to studying and propagating the historical heritage of Byelorussia, its national language, and Christian values. Such activity will be the best contribution to the moral and national uplift that we are now witnessing in Bielaruś.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

*аднагалосна прынятая ў гор. Таронта ў Канадзе 4 верасьня 1988 году 18-й Сустрэчай Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, прысьвечанай 1000-годзьдзю хрысьціянства ў Беларусі, 400-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага ды 150-м угодкам ад нараджэньня Кастуся Каліноўскага.*

Цяпер, калі ўлады ў савецкай Беларусі адкопваюць масавыя магілы ахвяраў сталінскіх злачынстваў, а савецкія афіцыйныя публікацыі прызнаюць наяўнасьць сацыяльнай карозіі, маральнага раскладу ды крызісу беларускай культуры (русыфікацыя), мы зварачаем увагу беларускага народу, асабліва моладзі, на багатую гістарычную спадчыну Беларусі. У сёньняшнім часе «перабудовы» ў Савецкім Саюзе ўсіх аспэктаў жыцьця мы павінны зварачацца да сваіх духовых і культурных каранёў у выпраўляньні школы, спрычыненай дзесяцігодзьдзямі бязбожніцкага экспэрымэнтаваньня. Далейшае разьвіцьцё беларускае нацыі павінна адбывацца ў цеснай лучнасьці із старавечнай беларускай культурнай спад-

*(Працяг на 6-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*Дай, Божа, шмат год!..*

*Выдатнай паэтцы, аўтару беларускага рэлігійна-нацыянальнага гімну «Магутны Божа», былому рэдактару газэты «Беларус», шматгадовай грамадзкай працаўніцы*

**НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ**

*з нагоды 85-х угодкаў жыцьця, што споўніліся 20 верасьня 1988 г., сябры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды рэдакцыі «Беларуса» шчыра жадаюць добрага здароўя, творчага настрою ды ўсякай памыснасьці ў жыцьці.*

## ДУМКІ Ў ЦАРКВЕ

Стоячы ў нядзелю 4-га верасьня на багаслужбе ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце, слухаючы густы прыемны тэмбр Міколы Ганька, які чытаў Апостала, я зьвярнуў увагу на нязвычайную надзёнсасьць чытанага для ўсіх нас пасланьня Паўла да Эфэсцаў (6:10-13): «...Браты мае, крапчэйце ў Госпадзе і ў магутнасьці сілы Яго; апранецеся ўва ўсю зброю Божую, каб здолелі ўстаяць супраць хітрыкаў д'ябальскіх; бо наша барацьба ня супраць крыві й цела, але супраць начальства, супраць уладаў, супраць сусьветных валадароў цемры гэтага веку, супраць духаў злосьці паднябесных». І падумалася: якія моцныя і якія актуальныя словы! Блізу дзьве тысячы гадоў мінула, а яны як-бы для нас напісаныя, для чалавека нашага сёньня, для цэлага народу, над якім валады цемры гэтага веку ўчыняюць гвалт і зьдзек. Наклалі кайданы і кажуць: «ты сувэрэнны»; адбіраюць мову і кажуць: «ты двумоўны». Мала таго, паказваюць на Евангельле і кажуць: «Яно нічога ня вартае, бо пакоры вучыць». Але доступу да яго ў роднай мове — так каб кожнае слоўца да сьведамасьці й да сэрца даходзіла — не даюць. Вось чаму наша змаганьне — «супраць начальства, супраць уладаў, супраць сусьветных валадароў цемры гэтага веку»...

Валадары цемры, сярод прыхільнікаў якіх і «свайго» брата ціраз сустрэнеш, ня хочуць, каб людзі сваёй чалавечай мовай да Бога зварачаліся. Баяцца. Чаго? Адзін баіцца, каб улады ня страціць; другі кажа: простая мова традыцыю паганіць; трэйці ня хоча разьвеяць малітоўнае таямнічасьці, якую сам сабе стварае за патокам незразумелых словаў.

Але той-жа Апостал Павал казаў: «Буду маліцца духам, буду маліцца розумам; буду пяяць духам, буду пяяць і розумам». Дык дзе-ж той розум, калі словаў не разумееш?.. Не разумееш так поўна й глыбака, як разумееш вось гэтыя словы малітвы, прачытанае Архіепіскапам Мікалаем на тэй-жа багаслужбе для і ад усіх удзельнікаў Сустрэчы:

*Уладару Неба й Зямлі, Спрадвечны Божа! Ты ўвесь сьвет стварыў і Духам Сьвятым усё прасьвятляеш, ажыўляеш і мацуеш.*

*Мы, дзеці Беларускага Народу, у шчырай пакоры просім Цябе, Божа, вы бач нам сьвядомыя й несьвядомыя правіны, Госпадзе, збаў нас ад усякіх напасьцяў варожых, пашлі нам еднасьць, згоду й паразуменьне. Умацуй, Госпадзе, Сьвятым Духам Тваім зьняволеных сёстраў і братоў нашых, — працай абцяжаных, у турмах мучаных.*

*Адабры, Божа, працу, сялянства, работнікаў, настаўнікаў, пісьменьнікаў, мастакоў і вучоных, каб народ наш мог разумна й добра жыць і Цябе, Айца нашага Нябеснага, увесь час славіць.*

*Асьвятлі наш розум Тваім эвангельскім сьвятлом, каб мы заўсёды былі з Табою. Пашлі народу Беларускаму слугаў Сваіх, якія пабожным жыцьцём і дзейнасьцю вялі-б народ наш да лепшае долі.*

*Пашлі нам ласку Тваю, Госпадзе, каб мы сталіся народам сьвятым і сваё пасланства выпаўнілі, і Табе, Спрадвечнаму Ўладару й Богу нашаму, у Сьвятой Тройцы Адзінаму — Богу Айцу, Богу Сыну й Богу Духу Сьвятому — прыносілі вернасьць, падзяку, любоў і славу, цяпер і ўвесь час, і на векі вякоў.*

Што можа быць прыгажэй за музыку роднае мовы, якою гаворыць твой спрадвечны народ?! Аналягічна гэткай-жа штадзённай мовай гаварыў сь Ісусам і Язэп, столяр з Назарэту, і вучні Ягоныя, рыбакі з мора Галілейскага. Дык ці трэба нам вагацца, калі нас заклікаюць зь іх прыклад браць?..

**Янка Запруднік**

## ПРОСЬБА АБ ДАПАМОЗЕ

**М. Кукабаку**

Выдаваная ў гор. Таронта (Канада) газэта «Сандэй Сан» (25.IX) зьмясьціла просьбу ад літоўскага вязьня сумленьня аб дапамозе зьняволенаму беларускаму іншадумцу Міхалу Кукабаку. Просьбу перадаў рэпрэсіяваны літоўскі сьвятар Сыгітас Тамкевічус, які знаходзіцца ў Томскай вобл. РСФСР у гор. Крывашэіна. Тамкевічус пэўны час быў зьняволены разам з Кукабакам у пермскім лягеры нумар 35 (для палітычных вязьняў). Там цяпер трымаюць М. Кукабаку. Газэта падала адрас Кукабакі ды заклікала чытачоў пісаць лісты да сваіх прадстаўнікоў у пралямэньце й да генэральнага сакратара ЦК КПСС Гарбачова з просьбай заступіцца за названых літоўскіх вязьняў сумленьня — Віктара Петкуса й Сыгітаса Тамкевічуса, а таксама за Міхала Кукабаку. Кукабакаў адрас гэткі:

Soviet Union
618810 Permskaya obl.
Chusovskoi raion
Stantsiya Vsesvyatskaya
uchrezhdeniye VS 389/35
Mikhailu Kukobaku

## М. КУКАБАКА НА СЬПІСЕ АБ ЗВАЛЬНЕНЬНІ

У канцылярыі кангрэсмэна Фрэнка Вульфа із штату Вірджынія газэце «Беларус» было сказана, што зьняволены беларускі іншадумец Міхал Кукабака быў на сьпісе прозьвішчаў, які міжнародная рэлігійная дэлегацыя перадала савецкім уладам улетку сёлета. У складзе дэлегацыі быў і кангрэсмэн Вульф. Савецкія афіцыйныя асобы Фёдар Бурлацкі, старшыня Грамадзянскае Камісіі Правоў Чалавека, і Канстантын Харчэў, старшыня Савету да Рэлігійных Справаў, публічна сказалі дэлегацыі, што ў верасьні сёлета ў Савецкім Саюзе будзе амністыя. Савецкія чыноўнікі не сказалі аднак, ці ўсе тыя, хто быў на сьпіску, будуць звольненыя.

На сьпіску было таксама прозьвішча дыякана Ўладзімера Русака, Беларуса з Баранавічаў.

Дамаганьні вызваленьня Кукабакі ды іншых зьняволеных не павінны аднак пасла6ляцца ад заяваў савецкіх чыноўнікаў аб амністыі.

## КАТАЛІЦКАЯ БАГАСЛУЖБА

Мінуў першы дзень Сустрэчы, спачатку надзейны й трывожны, пасьля трапяткі й радасны, калі заля Беларускага Цэнтру па берагі напоўнілася блізкімі й далёкімі, даўно нябачанымі суродзічамі. Якія прыгожыя беларускія жанчыны! У якую гармонію колераў і формаў ператварылася прававая сьцяна нашай залі! Усё лепшае творства беларускіх мастакоў Паўночнай Амэрыкі апынулася ў нас у залі, і творства мастакоў слова — кнігі.

«Магутны Божа!» — пачалося ўрачыста-ўзьнёслае адкрыцьцё 18-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

«Даўно мінуламу жыцьцю дары належныя складаем»: эпахальнай здабычы беларускага народу — Статуту Вялікага Княства Літоўскага.

Яська! Гаспадар з-пад Вільні, перад Табой схіляем свае галовы!

Пажыва для душы, для цела, музыка й рытм, скокі й гутаркі зь сябрамі ў зацішных кафэ гасьцініцы.

Падзякаваць за ўсё гэтае багацьце й шчодрасьць лёсу сабраліся мы на другі дзень у нядзелю перад беласьнежным аўтаром, наладжаны у прыгожай залі гасьцініцы на сьв. Літургію. Падзея была няштодзённая — ня толькі таму, што гэта Сустрэча вернікаў з усяго кантынэнту ад Ціхога да Атлянтычнага акіяну, а таму, што багаслужбу адпраўляў наш духовы павадыр Высокадастойны а. Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытатар для Беларусаў, і таму, што багаслужба была падзякай за тысяча год хрысьціянства ў Беларусі.

Згодна з воляй Божай, «...каб кожны язык вызнаваў, што Ісус Хрыстос — Госпад на Славу Бога Айца» (Філіп. 2:11), багаслужба была цалком у нашай роднай беларускай мове.

Маліліся:

«За Богам сьцеражоную краіну нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасьць у веры, мужнасьць у выпрабаваньнях і вернасьць свайму народу ўсіх нас Госпаду памолімся».

«Каб увесь гэты дзень быў дасканалы, сьвяты мірны й бязгрэшны, у Госпада просім».

«Будзем любіць адзін аднаго, каб аднадушна вызнаваць Айца і Сына і Сьвятога Духа...». О, як гэта нам патрэбна ў нашым цяжкім духова эміграцкім жыцьці!..

У сваёй казані а. Надсон гаварыў пра значэньне хрысьцыянства як ласкі Божае для нашага народу, для кожнага з нас асабіста, для нашага грамадзтва. Нашыя грамадзкія хваробы, нязгоды, сваркі, ненавісьць маглі-б быць вылечаныя, калі-б мы, як хрысьціяне, былі болей «стойкія ў веры», каб мы ня толькі гаварылі «Госпадзе, Госпадзе», але й выпаўнялі запавет Ісуса Хрыста, Які казаў сваім апосталам і нам: «каб вы любілі адзін аднаго, як Я вас любіў», каб мы былі болей талерантныя й спагадлівыя да іншых, каб мы патрапілі даравацъ тым, хто спрычыняе нам крыўды, ня раз, ня сем разоў, а сем разоў па семдзесят сем. Так гаварыў Хрыстос. «Будзем любіць адзін аднаго, каб аднадушна вызнаваць Айца і Сына і Сьвятога Духа, Тройцу адзінасутную й неразьдзельную».

Малітвай «Магутны Божа» закончылася багаслужба.

**Р. Ж.-Г.**

### БЕЛАРУСКІЯ РЭСПУБЛІКАНЦЫ ЗА БУША

Віцэ-прэзыдэнт Джордж Буш, кандыдат Рэспубліканскае партыі на прэзыдэнта ЗША, з удзячнасьцяй прыняў прызначэньне наступных асобаў ад Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу ў Кааліцыю Амэрыканскіх Нацыянальнасьцяў за Буша-Кўэйла: Сп. Васіль Мельяновіч — старшыня беларускай сэкцыі, заступнікі старшыні: сп-чна Раіса Станкевіч, сп.сп. Янка Раковіч, Канстантын Мерляк, Кастусь Калоша, Вітаўт Кіпель, Язэп Арцюх.

## «НЕФАРМАЛЬНЫЯ БЕЛАРУСЫ»

*(Працяг з нумароў 349, 350)*

*Алесь Костка*, студэнт тэатральна-мастацкага інстытуту:

«Наша аб'еднаньне 'Штука' узьнікла з канкрэтнай мэтай — дапамагаць у мастацкім афармленьні беларускаму руху. Бо-ж яму патрэбен свой, так сказаўшы, вонкавы выгляд, свая рэклама. Але на гэтым мы, пэўна-ж, ня спыняемся. Ёсьць і глабальнае заданьне. Мы бачым, што ў асяродзьдзі нашых мастакоў пануе пасыўнасьць. Бальшыня мастакоў адасабляюцца ў сваіх майстроўнях, на выставах зьбіраюцца таксама перш-наперш людзі мастацтва. Ці не пачынае мастацтва існаваць для мастацтва? А ў тым самым часе за межамі майстроўняў і выставачных заляў адбываюцца згубныя для нацыі і нацыянальнага мастацтва працэсы, зьнікае мова, няма беларускіх школаў. Але-ж з нацыянальных каранёў толькі й можа прарасьці ды разьвіцца нацыянальнае мастацтва. Мастакі ў майстроўнях часамі наіўна мяркуюць, што вось, бач, мы нарысуем — і ўсё зьменіцца. Але ўсё застаецца паранейшаму. Нашае заданьне — будзіць грамадзкую актыўнасьць у асяродзьдзі мастакоў.

*«Нёман»:* «Ці не таму, што вы бударажыце ня толькі мастакоў, і кажуць, што, прыкладам, менская 'Талака' — гэта аналяг маскоўскай 'Памяці' (расейская кансэрватыўна-нацыяналістычная група — рэд. «Б-са»), успамінаюць аб нядаўных падзеях у Алма-Аце і ў Прыбалтыцы...».

*Віктар Івашкевіч*, кіраўнік школьнага клюбу «Касінеры»: «Я пачну ад падзеяў у Алма-Аце. Што іх выклікала? Толькі нейкі там нацыяналістычны фанатызм? Не. Крызіс — эканамічны, маральны, дэградацыя вышэй-

*(Працяг на 6-й б.)*

БЕЛАРУС № 351 Верасень 1988 г.

# 18-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

*(Працяг зь 1-й б.)*

прысьвечаная беларускай жанчыне ў працы, маці. Багацьце беларускай прыроды было адлюстраванае ў гэткіх малюнках, як васілёк, лён, зіма.

Выстаўка прыцягнула вялікую ўвагу ўдзельнікаў, спрычынілася да ўдачы Сустрэчы.

Адказнымі за яе былі сп-ня Івонка Сурвіла з канадзкага боку, сп-ня Галіна Русак з боку амэрыканскага.

кая), «Адраджэньне рэлігіі й беларускай мовы» (Янка Запруднік).

Выступілі з прамовамі й прывітаньнямі:

Прадстаўнік Канадыйскай Этнічна-Культурнай Рады сп. Анджэлё Дэльфіна. Ён падкрэсьліў важную ролю Беларусаў у дзейнасьці Рады (да якой належаць 35 цэнтральных этнічных арганізацыяў) ды адзначыў, што сп-чна Паўлінка Сурвіла арганізавала пры Радзе



*Уладыка Мікалай чытае Евангельле. Фота А. Дубягі.*

моладзь і была выбраная за першага старшыню Арганізацыі Этнічнай Моладзі Канады.

Сп. М. Ганько дзякаваў усім працаўнікам Сустрэчы (сьпіс прозьвішчаў падаецца асобна).

Сп. М. Лужынскі вітаў ад імя Беларусаў Аўстраліі.

Др. Р. Жук-Грышкевіч гаварыла пра важнасьць традыцыі Сустрэчаў для трыманьня духовай лучнасьці з паняволеным народам на Бацькаўшчыне.

Сп. С. Яновіч выступіў з нарысам пра беларускасьць і эміграцыю.

Сп. А. Шукелайць прывітаў пісьменьнікаў, адзначыў іхную ролю ў пашырэньні нацыянальнае сьведамасьці ды выказаў ад імя ўсіх добрыя пажаданьні Натальлі Арсеньневай і др. Вінцэнту Жук-Грышкевічу з нагоды 85-годзьдзя іхнага жыцьця.

У канцэртнай праграме ўзялі ўдзел: жаноцкі ансамбль «Васілёк» з Кліўленду (пад кіраўніцтвам К. Калошы; тры песьні); танцавальны ансамбль «Васілёк» зь Нью-Ёрку пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана; тры танцы); Данчык (два вершы й тры песьні ды яшчэ адну на біс); вакальна-інструмэнтальны ансамбль «Дубіны», які прывёз з сабой апрача багатага рэпэртуару беларускіх народных, любоўных і патрыятычных песьняў сьпечаны беластоцкімі жанчынамі каравай, вынасам якога на авансцэну пад гукі мэлёдыі кампазытара Агінскага «Разьвітаньне з Бацькаўшчынай» ансамбль пачаў сваё выступленьне, выканаўшы ўсяго разам 18 песьняў.

Урачыстасьць закончылася супольным адсьпяваньнем «Люблю наш край» і нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Аклямацыяй былі прынятыя рэзалюцыя Сустрэчы ды пастанова выслаць прывітальныя лісты прэм'ерміністру Канады, прэзыдэнту Злучаных Штатаў, прэм'еру правінцыі Антарыё і мэру гораду Таронта.

**Я. З.**

Вячэра, з добрым выбарам смачное стравы, адбылася ў тэй-жа залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру. Надвор'е было душнаватае, і ўдзельнікі пад вечар з прыемнасьцяй паехалі на баль у гатэль Скайляйн-Траюмф, дзе затрымалася пераважная бальшыня тых, хто прыбыў здалёк. Да танцаў грала аркестра «Дубіны» зь Беласточчыны. Рэпэртуар ейны складаўся галоўна зь беларускіх мэлёдыяў і песьняў. Магло, праўда, быць крыху менш гуку, рэгуляваць які аркестранты ня зусім здолелі ў сувязі з новым электранічным абсталяваньнем і неадпаведнай акустыкай залі.

## БАГАСЛУЖБЫ. АКАДЭМІЯ

У нядзелю малельнікаў было зашмат, каб усім зьмясьціцца ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, дзеля гэтага аўтар быў перанесены ў залю БР-ГЦ. Там і адбылася архірэйская багаслужба, перад пачаткам якое айцу Карпу Стару быў нададзены сан архімандрыта. З Архіепіскапам Мікалаем, сусуслужылі а.а. Карп Стар, Аляксандар Радэнковіч, Сьцяпан Гуцулюк (Укр. Прав. Царква ў Канадзе), Міхась Страпко, падыяканы Роялнд Целеш і Аляксандар Ніканові; сьвечканосцам быў Алесь Кабяка, прыслужнікам — Шан Эдэленбос. Злучаным хорам кіраваў рэгент Кастусь Калоша.

Апостала чытаў прыгожым голасам сп. М. Ганько.

У сваёй казані Уладыка Мікалай гаварыў пра патрэбу ўводжаньня беларускай мовы ў багаслужбы, бо Ўсявышняму гэтулькі-ж блізкая беларуская мова, як і іншыя мовы сьвету.

Прывітаньне слова сказаў а. Гуцулюк.

Для Беларусаў-каталікоў багаслужбу адслужыў а. Надсон у паходнай капліцы ў гатэлі Скайляйн-Траюмф. Уся імша была адслужаная пабеларуску.

Пасьля абеду ў БР-ГЦ у гатэлі Скайляйн-Траюмф (хвалінаў 30-40 язды ад БР-ГЦ) адбыліся ўрачысты сход Сустрэчы (вяла сп-чна Паўліна Сурвіла) і канцэрт (вяла сп-ня Вера Бартуль). Былі выслуханыя даклады: «1000 гадоў хрысьціянства ў Беларусі» (Арх. Мікалай), «Хрысьціянскія карані беларускай культуры» (Мітр. прат. Аляксандар Надсон), «Міхал Кукабака, вязень сумленьня» (Урсуля Шульжыц-

Перад пачаткам сьв. Літургіі, адпраўленай а. Аляксандрам Надсонам, а. Джэймс Фарэл, дырэктар мідляндзкага месца паломніцтва, вітаў Беларусаў, ацаніў пабудову беларускага манумэнту ў прошчы як знак узмоцненай сувязі з Усявышнім у малітвах за зьдзясьненьне нашых ідэалаў. Айцец Надсон прамовіў паангельску ды зазначыў, што багаслужба будзе ў беларускай мове. Толькі Сьв. Евангельле чы-



*Айцец Аляксандар Надсон чытае даклад. Фота А. Дубягі.*

талася ў дзьвюх мовах — паангельску чытаў яго а. Фарэл, які суслужыў з а. Надсонам. Мілагучным голасам чытаў Апостала др. Вітаўт Рамук з Чыкага.

Да багаслужбы пяялі ўсе пад кіраўніцтвам сп. Зьмітра Ціханюка, кіраўніка царкоўнага хору ў Гайнаўцы й гітарыста ансамблю «Дубіны», з удзелам такіх выдатных галасоў, як Данчык Андрусышын, Ала Орса-Рамана, Галіна Руднік, Вера Заморская, Язэп Сажыч, Ванда й Міхась Махначы, Вера й Вітаўт Рамукі ды іншыя.

У сваёй казані а. Надсон гаварыў пра значэньне крыжа для нас, хрысьціян. Бог, стаўшыся чалавекам, сваёй сьмерцю на крыжы і ўваскрошаньнем перамог сьмерць, дараваў нам жыцьцё вечнае.

Гімн «Магутны Божа» ўзьнімаў душы й сэрцы нашы ўгару.

Пасьля Літургіі, якая дзеля няспрыяльнага надвор'я адбылася ў капліцы, а не, як плянавалася, перад нашым Крыжам, паломнікі пайшлі да Беларускага Крыжа.

Гонар адкрыцьця мэмарыяльнай бронзавай дошкі на каменнай падставе Крыжа заслоненае бел-чырвона-белым сьцягам прыпаў др. Раісе Жук-Грышкевіч. Айцец Надсон адправіў абрад высьвячэньня.

На ўрачыстасьці былі: цяперашні й папярэдні старшыні Рады БНР, др. Язэп Сажыч і др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, паэтка Натальля Арсеньнева, пісьменьнік Сакрат Яновіч із сп-няй Тацьцянай Яновіч, сябры ансамблю «Дубіны» зь ягоным кіраўніком сп. Пётрам Скепкам, сьпявак Данчык Андрусышын, мастачка Івонка Сурвіла (яна-ж старшыня БІНіМ у Канадзе), др. Ала Орса-Романа, кіраўнік танцавальнага ансамблю «Васілёк», кіраўнікі беларускіх радыёпраграмаў сп. Уладыслаў Праховіч зь Беластоку і сп. Міхась Лужынскі з Сыднэю (Аўстралія); старшыні беларускіх арганізацыяў: сп. Антон Шукелайць (Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне), др. Вітаўт Кіпель (Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў ЗША), сп-ня Вера Рамук (Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага), сп. Антон Хрэноўскі (Беларускае Згуртаваньне Правінцыі Квэбэк), сп. Аляксандар Палескі (Таварыства «Беларусь»),

## ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ КРЫЖА

На трэці дзень Сустрэчы адбылося паломніцтва ў прошчу, што каля Мідлянду, блізу 200 км. напоўнач ад Таронта, дзе быў высьвечаны Крыж — беларускі манумэнт, пастаўлены Беларусамі для адзначэньня 1000 гадоў хрысьціянства ў Беларусі.

сп. Паўлюк Пашкевіч (заступнік старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады). Нельга ня ўспомніць тут пляменьніцы Івана й Антона Луцкевічаў сп-ні Яніны Кахаsuccessор... 

Др. Раіса Жук-Грышкевіч дзякавала ўсім удзельнікам урачыстасьці, ахвярадаўцам: будаўніком Беларускага Крыжа, маладому Рыгору Хрэноўскаму за запіс цырымоніі высьвячэньня на відэайстужку ды ўсім тым, хто рабіў здымкі.

Прамаўлялі сп. сп. Антон Шукелайць, Вітаўт Кіпель, Уладыслаў Праховіч. Сёстры Ларыса й Гэлена Хрэноўскія, хораша апранутыя ў беларускія народныя строі, ад імя Беларускага Згуртаваньня Правінцыі Квэбэк уручылі др. Раісе Жук-Грышкевіч на пабудову Беларускага Крыжа чэк на 600 даляраў, прачыталі прозьвішчы 28 асобаў-ахвярадаўцаў ды зазначылі, што іхны збор ахвяраў яшчэ не закончаны. Шчырая падзяка й прызнаньне сям'і Храноўскіх!

Ды яшчэ адна дэталь. Сп. Праховіч, расказваючы пра Беларускі музэй у Гайнаўцы, зьвярнуў увагу на цікавы й прыгодны для музэю экспанат, які ён угледзеў... на плячох Анатоля Хрэноўскага. Надвор'е было халоднае і сп. Хрэноўскі меў на сабе зьвязаны сп-няй Хрэноўскай белы ваўняны сьвэтар зь беларускім арнамэнтам, на сьпіне якога быў чырвоны канадыйскі кляновы лісток, а на ім — беларуская Пагоня! Не зважаючы на холад, Анатоль зьняў зь сябе сьвэтар і ўручыў яго Ўладыславу Праховічу як экспанат у Беларускі музэй у Гайнаўцы ад Беларусаў Канады.

Песьняй «Люблю наш край» закончылася гістарычная падзея ў прошчы.

Тыя, што ехалі ў кірунку Таронта, затрымаліся па дарозе ў Бэры ў кватэры Жук-Грышкевічаў на полудзень. Было, як кажуць, у цеснаце, але ня ў крыўдзе.

Слава Табе, Гаспадзе! Беларускі Крыж пастаўлены й высьвечаны! Налета, калі ўсё будзе добра, недзе ў чэрвені зарганізуем паломніцтва да свайго «шрайну», да Беларускага Крыжа

**Р. Жук-Грыш[illegible]віч**

## *У ВЫДАНЬНІ КАНГРЭСУ ЗША*

Кангрэсмэн з Чыкага Фрэнк Анунцыё, даўны й шчыры прыяцель Беларусаў, выступіў у Кангрэсе 11 жніўня сёлета з прамоваю пра адзначэньне беларускай каталіцкай царквою Сьв. Збавіцеля ў Чыкага 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі (Congressional Record, Aug 11, 1988, p. [illegible]6971).

# 18-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

## НА СУСТРЭЧЫ ПРА СУСТРЭЧУ

*(Супрацоўніца рэдакцыі «Беларуса» сп-ня Зора Кіпель узяла ў часе Сустрэчы інтэрв'ю ў ейных удзельнікаў. Ніжэй зьмяшчаем іхныя выказваньні)*

### Алюньця Орса-Рамана зь Нью-Ёрку

Брала ўдзел у ўсіх сустрэчах, акрамя аднэй, што была ў Канадзе ў 1972 годзе. Сёлетняя Сустрэча добра зарганізаваная. Вельмі прыемна, што прыехалі «Дубіны» зь Беласточчыны. Але асабліва цешыць прысутнасьць і ўдзел моладзі ў гэтай Сустрэчы: і вельмі зьмястоўны даклад Алесі Кіпель, і выступленьне Улі Шульжыцкай, і група «Васілёк», сябры якое ўклалі і ўкладаюць так шмат працы — яны і на пробы мусяць прыходзіць дый самі сабе робяць касьцюмы й лапці. Вельмі я была задаволеная іхным выступам. Пацешыў Данчык з новым рэпэртуарам, а таксама клiўлендзкі хор. Удала вялі сэсіі маладыя Канадыйкі Юля Грыцук ды Паўлінка Сурвіла. Хочацца, каб моладзь брала яшчэ большы ўдзел ува ўсіх нашых імпрэзах ды паступова пераймала грамадзкую працу.


«Пацешыў Данчык з новым рэпэртуарам...»

Пажадана, каб бацькі прывозілі сваіх малодшых дзяцей на гэткія імпрэзы.

Арганізатарам пажадала-б, каб пакідалі больш часу на прыватныя гутаркі — ці-ж ня гэта адна з мэтаў нашых сустрэчаў? — а менш рабілі фармальных выступленьняў.

Так прыемна было пабачыць сваіх старых сяброў і знаёмых! Яшчэ адну важную і ўзрушальную імпрэзу мушу адзначыць — гэта высьвячэньне ў Мідлендзе Беларускага Крыжа, які ўзвышаецца цяпер на канадзкай зямлі, як помнік 1000-годзьдзю хрысьціянства на Беларусі.

### Оля Грыцук зь Кінгстану, Канада

Была на колькіх сустрэчах, апошні раз у Дэтройце ў 1968 г. яшчэ з пакойным мужам. Гэтая Сустрэча вельмі ўдалая. Вельмі важныя юбілеі, аж тры, якія трэба было добра адзначыць, каб весткі аб гэтым дайшлі й да Бацькаўшчыны, і да Беласточчыны — гэта й іх там натхняе да працы.

Даклады былі вельмі моцныя, цікавыя й на ўзроўні: і сп. Запрудніка, і сп. Плескача і Алесі Кіпель, вельмі прыгожы і добра апрацаваны. Забава


Зора Кіпель бярэ інтэрв'ю ў Сакрата Яновіча.

была вельмі прыемная, у гармоніі, аднак інструмэнты былі крыху загалосныя, дык прыгожыя беларускія песьні гублялі на гэтым.

У нядзелю архірэйская служба прайшла вельмі ўрачыста, у асысьце чатырох сьвятароў і пяцёх прыслужнікаў. Шмат людзей сабралася. Служба адбывалася ў вялікай залі, бо невялічкая нашая царква не ўмясьціла-б такой колькасьці людзей. Пропаведзь Уладыкі Мікалая была вельмі прачулая.

### Люда Войтэнка-Бакуновіч з Дэтройту

Была на пару апошніх сустрэчах. Гэтая — адна з найлепшых. Добра зарганізаваная. Група беластаччанаў шмат дадала да посьпеху гэтай Сустрэчы — яна аднаўляе й замацоўвае карані, аж аджываеш сэрцам і душой.

Музыка беларускай аркестры была асабліва прыемная. Моладзь амэрыканская й канадыйская цешыць: відаць, што маладое пакаленьне пераймае справу. Прыгожая была выстаўка беларускіх мастакоў — зьдзіўляе, што гэтулькі мы іх маем, асабліва мастачак. Выстаўленыя былі ня толькі малюнкі, а й мастацкія фатаграфіі Сільвановіча, драўляныя скульптуры Махнюка, інкрустацыя саломкай Шуста ды вышываньне Лёлі Міхальчык — усё гэта вельмі цікавае й надзвычайнае.

### Івонка Сурвіла з Атавы

Прыехалі мы на Сустрэчу цэлай сям'ёй з дочкамі й зяцямі. На маю думку, гэтая Сустрэча адна з найлепшых. Уся сэсія ў суботу, была вельмі цікавая, усе даклады на ўзроўні. Цешыла беларуская музыка ўвечары на забаве. У нядзелю рана служба Божая каталіцкая ў беларускай мове была вельмі ўрачыстая й прыгожая. Хоць я й праваслаўная, але заўсёды бываю ўзрушаная цяплынёю й шчырасьцю а. Надсона — ён мае нейкую асаблівую сьвятасьць. Шмат суродзічаў з усіх частак сьвету — важныя й цікавыя людзі прыехалі на гэтую Сустрэчу. Як мы ўвайшлі ў залю, там было столькі новых людзей, якіх ніколі ня бачылі, але пра якіх шмат чулі. Пабачылі й старых знаёмых, якіх даўно не сустракалі. Для нас гэта была й сямейная сустрэча, апошняя перад пачаткам акадэмічнага году, перад тым як дзеці разьедуцца ў розныя бакі.


Выхад «Лявоніхі». Фота А. Дубягі.


«Васілёк» славіць родную мову. Фота Я. Вішневіча.


«Дубіны»: пад музыку Агінскага Галя Якімюк выносіць каравай зь Беласточчыны. Фота Я. Вішневіча.

### Праньціш Бартуль зь Нью-Ёрку

Не прапусьціў ні аднэй Сустрэчы, ад часу як прыехаў у Амэрыку ў 1957годзе. Гэтая Сустрэча адбываецца з такім самым уздымам як і папярэднія, можа нават і з большым. Гэта значыць, што мы сумуем адзін па адным, і туга гэтая, туга па бацькаўшчыне выяўляецца ў тым, што нам хочацца больш і часьцей сустракацца й бачыцца.

Жаданьне спаткацца й праграма спатканьня мусяць гарманізавацца між сабой. Ня варта аддаваць перавагу афіцыйнай частцы. Аркестра, сьпевы, танцы, дый проста прыватныя гутаркі неад'емная частка Сустрэчаў.

Сустрэчы таксама паказваюць, што моладзь, якая тут нарадзілася, пачынае нас падмяняць. Будучыня выглядае добрай: мы ўсё-ж патрапілі перадаць маладым гэтую традыцыю.

### Валодзя Набагез з Ўолдэну

Ад 1956 году я быў на ўсіх Сустрэчах. Гэтая найбольш удалая і на найвышэйшым узроўні. Уся праграма была вельмі паважная й цікавая, асабліва канцэртная частка.

### Янка Ханенка з Кліўленду

Ад часу як уцёк з савецкага параплаву ў 1974 годзе, быў амаль на ўсіх Сустрэчах. На «канадыйскай» першы раз. Прыемна, што прыехалі беластоцкія «Дубіны» ды Сакрат Яновіч. Цешыць, што моладзь паступова пераймае, а з часам і зусім мусіць пераняць арганізацыю гэткіх сустрэчаў.

Найбольш спадабалася, што прыехала шмат гасьцей з розных краінаў. Шмат дыскутаваліся справа й лёс беларускай мовы, справа вызваленьня Кукабакі, чаго раней не рабілася. На гэтай Сустрэчы была асабліва яскрава прадэманстраваная сувязь з Бацькаўшчынай. Можа на наступнай Сустрэчы будуць ужо й людзі з савецкай Беларусі.

### Міхась Лужынскі з Сыднэю (Аўстралія)

Гэта ўжо другая Сустрэча, на якой я меў нагоду быць. Надзвычайнае ўражаньне. Вельмі добра арганізаваная,

 



многалюдная Сустрэча. Вялікі ўклад зрабілі беластоцкія суродзічы.

Быў на праваслаўнай службе, хоць



*Алеся Кіпель чытае даклад пра Статут Вялікага Княства Літоўскага.*

сам і католік. Прыгожая ўрачыстая служба: чатыры сьвятары асыставалі Ўладыку Мікалаю. Вельмі мілагучна сьпяваў мяшаны клііўлендзка-дэтройцка-нью-джэрзыйскі хор пад кіраўніцтвам сп. Калошы.

На забаве пад беларускую аркестру не танцаваў ужо гадоў з 40. Вельмі прыемна было. Многа моладзі, добра скакалі полечку, асабліва Ала Орса. Канцэрт пакінуў самае прыемнае ўражаньне. Пачалі, як трэба, «Лявоні-



*Урсуля Шульжыцкая гаворыць пра Міхала Кукабаку.*

хай». Першакляснае выкананьне. Кліўлендзкі хор гучаў вельмі прыемна. Аднак, беластачане ўзялі першы прыз.

Пажаданьні на будучыню? Было-б лепей, каб было менш прамоваў. Ага, кармілі добра!

**Славік Вініцкі зь Лёс-Анджэлесу**

Упяршыню на Сустрэчы. Першае ўражаньне прыгнятальнае. Як убачыў учора на забаве людзей, дык з болем падумаў: няўжо мы ўсе так пастарэлі? Шмат каго не пазнаю і шмат хто мяне не пазнае. Учарайшая імпрэза пад царквой была цікавая, але ня роўная. Рэфэрат Янкі Запрудніка — актуальны, даступны для ўсіх інтэлектуальных узроўняў. Алесі Кіпель фармат вельмі добры — цікавы даклад і не марыла людзей дэталямі. Але наагул рэфэраты — не для гэткіх мамэнтаў.

Што да забавы й да музыкі, дык — і добра й ня добра. Музыка была загалосная. Але прыемна было пабачыць, што ёсьць сувязь зь Беласточчынай.

Мясцовыя жанчыны, выглядае, шмат высілку ўклалі ў падрыхтаваньне ежы — усё было вельмі смачнае й спраўна йшло.

Парада для арганізатараў наперад: перасылаць загадзя разам з запрошінамі плян зь інструкцыямі, як куды даяжджаць.

**Коля Бахар з Саўт-Рывэру**

Быў ужо на чатырох Сустрэчах (Колі 25 гадоў і падкрэсьлівае, што не жанаты — З. К.). Падабаецца мне ў Канадзе. Быў ужо тут раней, але на Сустрэчы першы раз.

Першы раз бачыў Беларусаў-канадыйцаў, пазнаёміўся зь імі. Цяпер ужо мы маем шмат знаёмых і будзем разам трымацца.

Прыемна было пабачыць так шмат людзей зь Беластоку. Сустрэча была добра зарганізаваная. Моладзь вельмі добра праводзіць час.

**Сакрат Яновіч зь Беластоку**

Прыехаў першы раз на Амэрыканскі кантынэнт. Быў запрошаны ў Канаду, дык удалося й на Сустрэчу трапіць. Уражаньне? Думаў, што спатканьне будзе значна скрамнейшае і менш людное. Вельмі прыемна зьдзіўлены. Быў асабліва задаволены спатканьнем з Натальляй Арсеньневай. Мы вельмі яе паважаем і вывучаем ейныя творы, перакладаем іх у польскую мову.

Даведаўся тут шмат новага, асабліва з дакладу Ўладыкі Мікалая пра пачаткі хрысьціянства на Беларусі — шмат новых дэталяў для мяне. Думалася, што будзе нейкая дыскусія, а ня толькі выступ. Пажадана было-б напалову менш дакладаў, а на тое месца дыскусіі.

Імпрэзы перагружаныя — гэта ўжо нашая агульная хвароба. Найбольш мяне, аднак, уразіла, што на амэрыканскім кантынэнце гавораць пабеларуску — беларуская задаволенасьць, самавыстарчальнасьць. Такое ўражаньне, што магу праехаць Амэрыку й Канаду толькі зь беларускай мовай. Эміграцыя дапамагае перахоўваць беларускую культуру. Гэта вельмі важна.

**Надзя Кудасава з Самэрсэту**

Вельмі цікавая людная Сустрэча. Шмат уражаньняў, шмат знаёмых. Падтрымка беластоцкіх на гэтай Сустрэчы асабліва адчувалася. Невялічкая, толькі зусім невялічкая крытыка: крыху зашмат афіцыйных вступленьняў ды замала часу для гасьцей з далёкіх краінаў. Трэба было даць ім слова. Яны-ж гэтак шмат васілку зрабілі, каб прыехаць на гэтую Сустрэчу, дый нам цікава было-б паслухаць іхныя ўражаньні ды прывітаньні.

Праграма была вельмі добрая, але зацягнулася — людзі былі ўжо памучаныя й нецярплівыя. Ад гэтага пацярпелі асабліва «Дубіны».

Агульнае ўражаньне, аднак, вельмі прыемнае і ўсе разьяжджаліся з найлепшымі ўспамінамі.

Маё асабістае ўражаньне, хоць і ня хочацца гучэць пэсымістычна: сустрэчы — памерлая справа, бо ня ўцягнутая моладзь.

Акулава прапанова запозьненая на 20 гадоў.

Аднак на заканчэньне хачу сказаць: відаць, што праца была ўкладзена вялікая, вялікі высілак з боку арганізатараў, ды прыемна было спаткацца са старымі знаёмымі.

**Уладыслаў Праховіч зь Беластоку**

Вяду беларускія перадачы пры польскім радыё. Прыехаў у Канаду з аркестрай «Дубіны». Першы раз на амэрыканскім кантынэнце. Тут паўтара ўжо месяцы, шмат чаго зьведалі: Ніягару, індыянскія рэзэрвацыі, наша селішча Слуцак. Уражаньне ад Сустрэчы вельмі сымпатычнае. Асабліва зьдзівіла і ўразіла колькасьць людзей — перайшло ўсялякія спадзяваньні. У сыботу на забаве людзі на залі стаялі — ня было месца ўсім. Вельмі прыемная атмасфэра. Пазнаёміўся шмат зь кім: зь сябрам па прафэсіі з Аўстраліі Міхасём Лужынскім ды іншымі. Чалавек сябе адчувае, як-бы знаёмы з гэтымі людзьмі ўжо даўжэйшы час. Адначасна й працую — запісаў ужо 5 істужак інтэрв'ю з рознымі людзьмі для беларускага радыё.



*Урачысты мамэнт: др. Раіса Жук-Грышкевіч здымае пакрыцьцё з табліцы новазбудаванага Беларускага Крыжа. Збоку стаіць а. Ал. Надсон. Фота Я. Вішневіча.*

На багаслужбу каталіцкую сабралася даволі шмат людзей. Прыемна, што служба ў беларускай мове, хоць для нас, чыкагаўскіх, гэта й не навіна — у нас таксама служыцца пабеларуску. Шкада толькі, што ня было магчымасьці наведаць абедзьве багаслужбы, бо адбываліся яны ў тым самым часе. Такі расклад, нажаль, бывае на кожнай Сустрэчы.

Агульнае ўражаньне вельмі пазытыўнае. Сустрэча гэтая падбадзёрвае, бо неяк ужо было выглядала, што нашая актыўнасьць замірала, аднак гэтая Сустрэча падмаладзілася дый нас усіх падмаладзіла.



*Удзельнікі урачыстасьці пасьвячэньня Беларускага Крыжа ў Мідленьдзе. Фота Я. Вішневіча.*

**Галіна Руднік зь Мюнхэну**

Гэта мая першая Сустрэча. Прыехала ў Амэрыку, каб наведаць свайго сына, ды ўжо прынагодна й на Сустрэчу. Прыехалі, нажаль, крыху запозна, на рэфэраты спазьніліся — прыйшлі ўжо на канец Алесінага рэфэрату. Янку паслухалі з прыемнасьцю.

Адлегласьць тут паміж царквой і гатэлем завялікая, дык залежыш ад транспарту — ня маеш магчымасьці ўсё пабачыць, усіх спаткаць.

Прыгожая сяньня забава. Шмат зь кім ёсьць спаткацца й пагутарыць. Музыка аднак хоць і прыемная, але трохі замоцная ды перашкаджае, бо-ж хочацца й зь людзьмі пагаварыць. Шмат старых знаёмых, зь якімі ўжо гадамі ня бачылася.

**Ванда Махнач з Чыкага**

Думаю, што на кожнай Сустрэчы бывала. Гэтая ў параўнаньні зь іншымі вельмі добрая. Шмат людзей, цікавыя госьці зь Беларусі. Першы раз бачу, што моладзь бярэ актыўны ўдзел у вядзеньні праграмы.

Вельмі мне падабалася Уля Шульжыцкая, якая гаварыла пра Кукабаку. І коратка й прыгожа — відаць, што будзе добрая працаўніца на будучыню.

**Мікола Ягаўдзік з Кліўленду**

Бываў блізу на кожнай Сустрэчы, можа якіх пару прапусьціў. У Канадзе ўжо трэйці раз. Гэтая, бадай, найлепшая з усіх Сустрэчаў. Добра арганізаваная. Мастацкая частка вельмі шырокая. Беластоцкія нас добра падтрымалі. Прыемна пачуць, што яны затрымалі беларускую мову. Неспадзявана прыемна зьдзіўлены, што сабралася гэтульки людзей. На будучыню пажадана, каб на Сустрэчах усё адбывалася ў адным месцы, бо шмат часу губляецца на транспартацыю.

**Эва Пашкевіч-Мэк Карвіл з Ванкувэру**

На апошняй Сустрэчы была, мусіць, якіх гадоў дзесяць таму. Гэтая Сустрэча для мяне асабліва ўражлівая, бо я ўжо колькі гадоў як ня была сярод Беларусаў. Прыемна пабачыць старых

*(Працяг на 6-й б.)*

 

# 18-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

(Працяг зь 5-й б.)

знаёмых, успомніць пра нашыя таронцкія «Караваны». Засумавала я па Беларусах. Шмат ураханьняў і пачуцьцяў з маленства ўсплыло. Асабліва мне спадабалася Запруднікава прамова, а таксама забава, бо мела нагоду пабачыцца шмат зь кім і пагаварыць з усімі.

Вельмі прыемна зьдзіўленая, што так шмат людзей прыехала. Спаткала тут дзьвюх жанчын з Ванкувэру, Галіну й Ірку Мурашка, зь якімі, жывучы ў Ванкувэры, ніколі не спатыкалася. Цяпер будзем трымацца ў лучнасьці.

### Міхась Баяроўскі зь Бірмінгаму (Ангельшчына)

Надзвычайна добрае ўражаньне. Ніколі й не спадзяваўся, што гэтакае тут пабачу. Вельмі ўзрушаны, асабліва беластоцкімі. Гэта маё першае падарожжа на Амэрыканскі кантынэнт. Прыехалі мы з жонкай спачатку ў Нью-Ёрк, там нанялі машыну й самі прыехалі сюды на спатканьне.

Асабліва ўразіла мяне прамова Янкі Запрудніка, а таксама майго былога настаўніка Плескача. Спаткаў шмат знаёмых, зь якімі не бачыўся гадамі. Чытаў у «Беларусе» пра Сустрэчы, але гэта першы раз што мне ўдалося й самому быць на аднэй. Калі будзе здароўе, думаем прыехаць і на наступную.

Захоплены песьнямі Данчыка. Маю ягоную кружэлку, а тут пашчасьціла й жывога паслухаць. Танцы, сьпевы — усё гэта цяжка й апісаць, якое ўражаньне пакідае.

### Віталі Кажан із Стамфарду

Быў на шмат якіх Сустрэчах, на апошніх шасьцёх напэўна быў. На апошняй у Канадзе ў 1978 годзе мне, прызнацца, не спадабалася. Гэтая — адна з найлепшых: і начлег, і ежа, і праграма.

Прыехаў сваёй машынай, якіх 600 міляў зрабілі, але варта высілку. Самае надзвычайнае гэта, мусіць, «Дубіны» ды Сакрат Яновіч. Ягоная прамова філязофская, гэта проста кніга — вялікае ўражаньне зрабіла на мяне. Адным словам, Беласточчына была цэнтрам Сустрэчы.

### Мікола Грэбень з Фэніксвілу

Быў на нейкіх пяцёх Сустрэчах, у Канадзе першы раз. Вельмі прыемна, бо нас гэтыя Сустрэчы яднаюць і прыпамінаюць, не даюць забывацца хто мы.

Спаткаў шмат людзей, якіх даўно ня бачыў. Гэтая Сустрэча амаль найбагацейшая і людзьмі і праграмай. Крыху нявыгодна, што ня ўсё ў адным месцы. «Дубіны» й пісьменьнік зь Беласточчыны — гэта важная прысутнасьць. І на нас добрае ўражаньне і ім гэта будзе на карысьць. Іхны пабыт тут як-бы падвойны магнэт: прыцягнуў шмат каго на Сустрэчу, а там, на Беласточчыне, будзе прыцягваць Беларусаў да працы таксама. Запруднікава ды Сакратава прымовы асабліва ўзрушылі — кожнае слова такое глыбокае й на часе.

### Віктар Касьцюкевіч з Таронта (адзін з арганізатараў Сустрэчы)

Быў амаль на ўсіх папярэдніх Сустрэчах. Гэтая, на маю думку, адна з самых найбольшых, цікавых і эфэктыўных. Шмат цікавых людзей сабралася. Госьці зь Беласточчыны былі магнэтам, які прыцягнуў так шмат людзей на Сустрэчу. Вельмі мы задаволеныя, што адважыліся арганізаваць сёлетняе спатканьне ў сябе — добры мамэнт, добры імпэт. Мы, вэтэраны, цяпер перадаём ужо моладзі. Дзесяць гадоў таму была мінулая апошняя Сустрэча ў Канадзе. Праз дзесяць гадоў, спадзяемся, нашая моладзь цалкам пяройме арганізацыю.

* * *

Падобныя думкі й ацэны выказалі ў інтэрв'ю зь Янкам Запруднікам, апрача некаторых паданых вышэй, Анатоль Хрэноўскі з Манрэалю, Мікола Ганько з Таронта, група жанчын з Канады, Галіна Якімюк з «Дубіноў», Оля Лукашэвіч з Кліўленду, Галіна Русак з Самэрсэту, Пётра Конюх з Канады, Пятро Барысік з Бэльгіі, Валянтына Пашкевіч з Таронта, Кастусь Акула з Таронта, Янка Азарка з Самэрсэту, браты Мацукевічы, адзін з Амэрыкі другі з Канады, Дзімітры Ціханюк і Пятро Скепка з «Дубіноў».

Паводля неафіцыйных падлікаў у Сустрэчы ўзяло ўдзел каля 500 асобаў.

## ПРЫВІТАНЬНІ СУСТРЭЧЫ

Удзельнікаў Сустрэчы віталі пісьмова: канцылярыя прэм'ер-міністра Канады Браяна Малруні; сп. Джон Тэрнэр, лідэр апазыцыйнае Лібэральнае партыі; сп. Эд Броўдбэнт, лідэр Новае Дэмакратычнае Партыі Канады; сп. Джэры Ўайнэр, міністар мультыкультуралізму; сп. Джэры Філіпс, прэм'ер Антарыё; канцылярыя міністра культуры й сувязі правіцельства Антарыё; сп. Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі; сп. Міхась Наўмовіч, старшыня Беларускага Хаўрусу ў Францыі; прат. Аляксандар Яноўскі із Сан-Францыска; прывітальныя тэлеграмы прыслалі Беларускі ліцэй у Гайнаўцы ды дзяўчаты вакальна-інструмэнтальнага калектыву «Дубіны» з Гайнаўкі.

Дзеля нястачы часу ня здолелі выступіць з прывітаньнямі ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага сп-ня Вера Рамук, якая хацела адзначыць вельмі важны ўдзел беларускай моладзі ў сёлетняй Сустрэчы; а. Міхась Страпко з Кліўленду; сп. Міхась Тулейка, старшыня аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы; сп. Сяргей Гутырчык, старшыня Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў Усх. Узбярэжжа ЗША; сп. Юрка Азарка, старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі; сп. Уладыслаў Траховіч, кіраўнік беларускай радыёпраграмы ў Беластоку; сп. Пётра Барысік ад Беларусаў Бэльгіі; др. Віктар Сянкевіч з Гішпаніі; сп. Кастусь Мерляк, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ды іншыя асобы. Усім ім арганізатары Сустрэчы дзякуюць за прывітаньні й добрыя пажаданьні, выказаныя пасьля нефармальна.

## ПРАЦАЎНІКІ Й АКТЫЎНЫЯ ЎДЗЕЛЬНІКІ СУСТРЭЧЫ

### ЗША

Сьвятарства: Архімандрыт Карп Стар, а. Міхась Страпко, а. Аляксандар Радэнковіч; сьвечканосец Алесь Кабяка.

Танцавальны ансамбль «Васілёк»: Ала Орса-Рамана (кіраўнічка), Нона Азарка, Юрка Азарка, Антон Бартуль, Галіна Бахар, Коля Бахар, Ліда Данілюк, Вера Запруднік, Нэнсы Захаркевіч, Юрка Кіпель, Павал Рамана, Дарота Рыжы, Пётра Рыжы, Віктар Тур, Уля Шульжыцкая.

Жаноцкі хор «Васілёк» з Кліўленду: Кастусь Калоша (кіраўнік), Оля Дубаневіч (Макдэрмат), Вера Каваленка, Тацьцяна Кананчук, Ганна Лазар, Оля Лукашэвіч, Галена Радзюк, Натальля Страпко, Вольга Стрэчань, Ірэна Ўрэцыц-Трацьцякова, Валя Ягаўдзік, Валя Яцэвіч.

Мастакі: Мікалай Дутко, Надзя Кудасава, Людміла К. М., Алег Махнюк, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Галіна Русак, Алекс Сільвановіч, Ст. Тамара.

* * *

Янка Азарка, Данчык Андрусышын, Янка Запруднік, Алеся Кіпель, Вітаўт Кіпель, Васіль Плескач, Міхась Тулейка, Антон Шукелайць.

### КАНАДА

Сьвятарства: Архіепіскап Мікалай; падыяканы Ролянд Цялеш, Аляксандар Ніканавіч, прыслужнік Шан Эдэленбос.

Мастакі: Юрка Акула, Марыя-Паўліна Сурвіла, Івонка Сурвіла, Мікола Шуст.

* * *

Кастусь Акула, Надзя Баран, Янка Баран, Марыя Ганько, Мікола Ганько, Юльляна Грыцук-Мэкарскі, Раіса Жук-Грышкевіч, Вячаслаў Касьцюкевіч, Барыс Кірка, Алена Кулеш, Тамара Кулеш-Робэртс, Тамаш Кулеш, Аляксандар Максімюк, Арсень Монід, Аня Мышкоўская, Адам Ніканавіч, Аляксандар Ніканавіч, Лявон Паплаўскі, Сьцяпан Прахарчук, Барыс Рагуля, Вера Радэк, Ванда Сільвановіч, Нікіфар Сільвановіч, Аркадзь Харавец, Аня Харэвіч, Галена Хрэноўская, Анатоль Хрэноўскі, Рыгор Хрэноўскі, Ліда Целеш, Аляксандар Шаршуновіч (Палескі), Кастусь Шаршуновіч.

### АНГЕЛЬШЧЫНА

Мітр. прат Аляксандар Надсон.

### БЕЛАСТОЧЧЫНА

Ансамбль «Дубіны»: Пятро Скепка (кіраўнік), Андрэй Іванюк, Янка Крынскі, Валодзя Скепка, Дзімітры Ціханюк, Галя Якімюк.

Уладзімер Праховіч, Сакрат Яновіч.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

(Заканчэньне зь 1-й б.)

чынай. Толькі на глебе свае гісторыі мы здолеем вырабіць здаровыя пагляды ды вылечыць комплекс няпоўнасьці сярод Беларусаў, спрычынены савецкім абкраданьнем, фальсыфікацыяй ды нішчэньнем беларускае мінуўшчыны.

Мы заклікаем усіх Беларусаў, таксама як і Канадцаў ды Амэрыканцаў беларускага паходжаньня, прысьвяціць свае намаганьні справе вывучэньня й пашырэньня гістарычнае спадчыны Беларусі, нацыянальнае мовы й хрысьціянскіх вартасьцяў. Гэткая дзейнасьць станецца найлепшым укладам у маральны й нацыянальны ўздым, які мы сёньня бачым на Беларусі.

# «НЕФАРМАЛЬНЫЯ БЕЛАРУСЫ»

(Заканчэньне з 2-й б.)

шага партыйнага кіраўніцтва. Гэта выклікала выбух. Падзеі ў Прыбалтыцы — таксама крызіс шмат якіх бакоў жыцьця грамадзтва. Нашыя нефармальныя аб'яднаньні — гэта адна із спробаў перамагчы гэты крызіс. Дзеля гэтага якраз дзейнасьць клюбаў не зачыняецца ў клюбах. Узьнікае больш шырокі рух. Прыкладам, літаратары — ня толькі літаратары, калі яны бяруць удзел у Дні памяці, прысьвечаным, між іншага, памяці ахвяраў рэпрэсій 30-х гадоў. Гэта ўжо палітыка. Тая-ж «Талака», вузкая спэцыялізацыя якой — ахова помнікаў, брала ўдзел у маніфэстацыі пратэсту супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС. Гэта — экалёгія і палітыка. Усё ў комплексе. Што да адрозьненьня нас ад 'Памяці', дык яго трэба шукаць ізноўжа ў правільным разуменьні людзьмі таго, што гэта — нацыяналізм. Бо-ж шмат хто палохае. Прыкладам, прыходжу я ў школу, гавару пабеларуску, а мне кажуць: «А, мы знаем, гэта нацыяналісты!' Я пытаюся: 'А хто гэта — нацыяналісты?' Адказаюць: 'Ну, гэта тыя, хто гаварыць пабеларуску'. Часта блытаюць нацыянальнае й нацыяналістычнае.

*Адам Глобус*, карэспандэнт часапісу «Крыніца»: «Думаю, што да 'Памяці' мы дачыненьня ня маем. Я сутыкаўся з прадстаўнікамі гэтай арганізацыі, і першае, што яны мне з запранавалі, дык гэта пісаць парасейску, 'як і кожнаму нармальнаму Славяніну'. Карацей, для 'Памяці' адрозьненя паміж славянскім і расейскім ня існуе. Магчыма, я недастаткова паінфармаваны, але гэта — з майго асабістага дасьветчаньня. Што да Прыбалтыкі і Казахстану... Нас, у Беларусі, аб'ядноўвае боль за родную мову, а ў Прыбалтыцы такой праблемы няма, як і ў Казахстане, — прынамся яна ня так войстрая.

*Вінцук Вячорка*, выкладчык пэдінстытуту: «Наконт нацыяналізму і ярлыкоў. Усё-ткі грамадзкія вадападзелы прыходзяць не па нацыянальнай прыкмеце. Прыкладам, на нядаўны 'Вальны сойм', як яго афіцыйна назвалі, — сэмінар самадзейных аб'яднаньняў гісторыка-культурнага і краязнаўчага кірунку — да нас прыяжджалі госьці — моладзь з падобных нефармальных аб'яднаньняў Літвы, Украіны, Расеі. Гэта — з аднаго боку. З другога боку — там былі і тыповыя бюракраты, нашы з вамі 'фармальныя' суродзічы, у якіх у пашпарце напісана, што яны Беларусы. Яны не прызнавалі за сабой недахопаў, не адказвалі на крытыку або, як, прыкладам, мэтрабудавец, што выкапаў катлаван на менскім замчышчы, ішлі ў наступ. Дык вось, сваіх мы бачылі й прызнавалі ў Літоўцах, Украінцах і Расейцах, а чужых — часамі ў нашых беларускіх бюракратах. І пасьля, раз і назаўсёды давайце вызначым, што нацыяналізм — гэта ідэялёгія і палітыка, зьвязаная з зацісканьнем правоў іншых народаў, з пропаведзяй свае вышэйшасьці. Ня ведаю, ні разу не заўважаў, каб дзе-небудзь, калі-небудзь якое-небудзь наша мерапрыемства, афіцыйнае выступленьне несла гэтую пропаведзь».

(Працяг у наступным нумары)

## «РАДЫЁ ВАТЫКАН»

### *Брашура*

Беларуская сэкцыя Ватыканскае радыястанцыі выдала ілюстраваную брашуру зь інфармацыяй пра радыё Ватыкан, характар, гадзіны й хвалі беларускіх перадачаў. Брашура высылаецца задарма. Зварачацца трэба на адрас (тэл.: 06-698.4001):

Radio Vaticana
Sezione Bielorussa
00120 Citta del Vaticano

Пішучы з Амэрыкі, Канады, Аўстраліі, варта дадаваць у канцы адрасу: Europe.

## АХВЯРЫ НА БЕЛАРУСКІ КРЫЖ У КАНАДЗЕ

*(Папярэднія сьпісы ахвярадаўцаў, 28 прозьвішчаў, гл. у «Беларусе» № 348 і 350)*

| | |
|---|---|
| Даніловіч Браніслаў | кан. дал. 30 |
| Сак Фаня | 59 |
| Вініцкая Бэнігна | 48 |
| Чарнэцкая Аляксандра | 36 |
| Лашук Аляксандар | 20 |
| Гайдзель Ірына | 61 |
| Конюх Пётра | 50 |
| Натальля Арсеньнева | 124 |
| Бел. Культ.-Грам. Клюб у Сыднэі | аўст. дал. 100 |
| Нарушэвічы С. і О. | а.д. 100 |
| Лужынскі Міхась | а.д. 100 |
| Хаванская Анна | а.д. 10 |
| Школа Я. | а.д. 7 |
| Антух М. | а.д. 10 |
| Сэйсо Грэйс | кан. дал. 10 |
| Хрэноўскі Анатоль | 100 |
| Абадзінская Аніта | 15 |
| Хрэноўскі Рыгор | 10 |
| Сакаўчук Ф. | 25 |
| Дродз В. | 10 |
| Акула Юрка | 10 |
| Аноп В. | 20 |
| Астоўскі П. | 10 |
| Страшынскі М. | 10 |
| Бельмач В. | 20 |
| Бучынскі К. | 10 |
| Чэрненка А. | 40 |
| Попель П. | 40 |
| Хрэноўскі Я. Я. К. | 20 |
| Галавач Г. | 20 |
| Ждан А. | 20 |
| Саўк В. | 15 |
| Мазэпа В. З. | 20 |
| Мэвуш Г. В. | 10 |
| Лягодзіч П. | 10 |
| Абадзінскі В. | 10 |
| Мяцеліца А. | 20 |
| Коцюга Г. | 10 |
| Лашук Я. | 25 |
| Паўловіч М. | 10 |
| Новорай С. | 20 |
| Чэрненка Г. | 35 |
| Чэрненка Л. | 35 |
| | кан. дал. 3,455.02 |

Арганізатары праекту «Беларускі Крыж» шчыра дзякуюць усім ахвярадаўцам за маральную й матар'яльную падтрымку. Ужыцьцёўленьне нашага праекту — пабудова Крыжа, бронзавая мэмарыяльная пліта ды іншыя зьвязаныя з гэтым выдаткі будуць каштаваць, прыблізна, пяць тысячаў кан. даляраў.

За далейшыя ахвяры арганізатары праекту «Беларускі Крыж» былі-б шчыра ўдзячныя.

## *36 ГАДОЎ ТАМУ...*

Сустрэліся першы раз 36 гадоў таму. У пачатку ліпеня 1952 году. Ня выпадкава, арганізавана. Былі яшчэ маладымі — ня векам, не (былі, праўда, і такія), былі маладымі пасяленцамі-Беларусамі ў Паўночнай Амэрыцы.

Беларуская эміграцыя пасьля 2-й сусьветнай вайны расьцярушылася па ўсім сьвеце. Вялікая колькасьць людзей пасялілася ў ЗША й Канадзе. Пачалі тварыцца розныя грамадзкія арганізацыі, адной зь якіх было Згуртаваньне Беларускай Моладзі ў ЗША «Маладняк».

36 гадоў ня юбілей. Юбілеямі прынята лічыць 5, 10, 25 і г.д. гадоў. А тут — ні туды, ні сюды... усяго 36. Аднак... адбылася 18-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Паўналецьце ў жыцьці чалавека — гэта 18 гадоў... 36 гадоў, выходзіць, — падвойнае паўналецьце. Дык чаму ня лічыць 36 гадоў падвойным юбілеем?

Управа «Маладняка» заплянавала была арганізаванае пазнаваньне новага краю асяленьня. З гэтай мэтай нанятымі аўтабусамі ладзіліся падарожжы ў розныя гістарычныя месцы краю. Гэтак былі арганізаваныя экскурсіі ў Вашынгтон ды на Ніягарскі вадапад.

Для падарожжа на Ніягару былі выкарыстаныя тры вольныя дні ад працы — 4-6-га ліпеня 1952 году. Падрыхтоўка да падарожжа пачалася за месяц да выезду. Патрабаваўся час для збору сродкаў на пакрыцьцё выдаткаў транспарту ўдзельнікаў з Дэтройту, Чыкага й Нью-Ёрку ды кошту гатэляў.

Пасьля агледзінаў прыгаства вадападу і ягонага навакольля была заплянаваная сустрэча Беларусаў ЗША і Канады на Канадыйскім беразе Ніягары папаўдні 5-га ліпеня. Там «Канадыйцы» мелі знайсьці і падрыхтаваць адпаведнае месца на сустрэчу.

Усё адбылося спраўна. «Амэрыканцы», вялікая колькасьць у нацыянальных строях, пераехалі мост на канадыйскі бераг сваім аўтабусам, а там «Канадыйцы» ськівалі ўсіх да спэцыяльна нанятай пляцоўкі.

У кароткай афіцыйнай частцы былі прывітаньні ад імя Згуртаваньня Беларусаў Канады, управы «Маладняка», управы БАЗА, прэзыдыюму Рады БНР ды гарачая прамова выдатнага беларускага дзеяча, сябры першага ўраду БНР, сп. Чарапука-Змагара, які жыў тады ў Чыкага.

Пасьля гэтага ўсе зьліліся ў адну беларускую сям'ю — пачаліся гутаркі старых знаёмых і сяброў, што гадамі ня бачыліся, ды асабістыя знаёмствы з асобамі ведамымі адно зь ліставаньня ці прэсы. Калі ўсе даволі нагутарыліся, праф. Вінцэнт Жук-Грышкевіч прачытаў кароткі рэфэрат пра жыцьцё й творчасьць Янкі Купалы.

Як толькі сьцямнела, усе накіраваліся да рэчкі, дзе, пры распаленым вогнішчы, адбылася купальская забава з адпаведнымі сьпевамі, пушчаньнем вяночкаў і падобным. Як падаваў у той час у газ. «Бацькаўшчына» (№ 32, 10.VIII.1952) ніжэй падпісаны ўдзельнікі тае сустрэчы:

«Вельмі прыемна было бачыць, што з розных канцоў... расьцярушанасьці на Амэрыканскім кантынэньце нашае эміграцыі людзі хоць раз у год маглі супольна сустрэцца й прыемна правесьці час ды ўзбагаціць сваё веданьне новага краю... Падкрэсьліваючы значэньне й карысьць разумнай ініцыятывы, што ўзьнікла ў кіраўніцтва «Маладняка» ў ЗША, хочацца запанаваць усім нашым беларускім грамадзкім арганізацыям у ЗША і Канадзе, каб падобныя спатканьні яшчэ больш шырэйшага памеру сталіся тут у нас у Паўночнай Амэрыцы штогодняй традыцыяй».

Цяпер-жа, пасьля 36 гадоў, зь яшчэ большай прыемнасьцю можна сьцьвердзіць, што заклік гэты не застаўся бяз водгуку. Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі сталіся ня штогодняй, праўда, але сталай традыцыяй. Да сустрэчаў паважна рыхтуюцца, а сустрэчы цяпер наведваюць Беларусы з-паза межаў ЗША й Канады. Ад колькіх гадоў пачалі ладзіць падобныя сустрэчы і ў далёкай Аўстраліі.

Арганізатараў будучых сустрэчаў чакае вялікая, адказная праца ў выбары месца сустрэчы ды разумнага пляваньня ўсяго мерапрыемства. Варта, здаецца, будзе зьвярнуць больш увагі на пацяшальны бок праграмы (канцэрты, самадзейнасьць, наведваньні выставак, музэяў) заміж пераладоўваньня рэфэратамі пра паважныя гістарычныя падзеі.

**А. Сьвіслацкі**

## *З ЖЫЦЬЦЯ Ў СЫДНЭІ Й МЭЛЬБУРНЕ (АЎСТРАЛІЯ)*

### АГЛЕДЗІНЫ

На пачатку сакавіка сыднэйская этнічная радыястанцыя зьмяніла сваё месцазнаходжаньне, гэтым разам на лепшае. Пад студыю й адміністрацыю занялі два паверхі мадэрнага будынку ў даволі зручнай мясцовасьці для даезду публічным транспартам ды зь відам на сыднэйскі заліў. Уся апаратура новая, выгадная й прыгожая мэбля, хапае ўсялякага дапамаговага абсталяваньня й прыладаў.

У аўторак 17-га травеня дырэкцыя радыё запрасіла прадстаўнікоў пяцёх этнічных групаў, у тым ліку й Беларусаў, азнаёміцца з навасельлем. Усе наведнікі былі задаволеныя з таго, што пабачылі, а найважнейшае хіба тое, што этнічнае радыё мае запэўненую будучыню.



*На агледзінах (зьлева): М. Лужынскі, др. Оля Качан, сп-ня Оля Нарушэвіч, інж. Ст. Нарушэвіч, сп. К. Сіткоўскі. Фота А. Бакуновіча.*

### УГОДКІ БЕЛАРУСКАЙ РАДЫЯПРАГРАМЫ

Дваццатага ліпеня сёлета споўнілася 12 гадоў ад заснаваньня Беларускага Радыёвага Камітэту й выхаду ў эфір першай беларускай праграмы ў Сыднэі.



*М. Лужынскі ля мікрафону. У эфір ідзе 625-я перадача.*

На пачатку ўсе мы, а таксама і ўрадаўцы думалі, што этнічнае радыё — справа тымчасовая, экспэрымэнт. Аднак жыцьцё паказала папулярнасьць і патрэбу гэткіх перадачаў. Сёньня этнічная радыястанцыя перадае ў 53-х мовах сьвету 16 гадзін у суткі сем дзён на тыдзень.

Беларуская сэкцыя мае адну гадзіну штотыдня, кожнага аўторку ад 8:15 да 9:15 увечары. Кажуць, што праграмы нашы папулярныя. З водгукаў і лістоў у радыё я ведаю, што слухаюць нас ня толькі Беларусы, але й шмат людзей іншых нацыянальнасьцяў, што разумеюць беларускую мову. Кожны другі тыдзень мы маем ангельскі куточак, які вядзе Алесь Зуй, за што яму дзякую. Тут хачу таксама падзякаваць др. В. Сянькевічу зь Гішпаніі, др. Я. Запрудніку зь Нью-Ёрку й др. Олі Качан. Мне асабіста пару гадоў таму заплацілу наш зямляк на сьвяткаваньні нацыянальнага сьвята, сказаўшы: «Я жыву адзін, ужо пару гадоў на пэнсіі і амаль зусім сьляпы. Цэлы тыдзень чакаю аўторку — гэта для мяне сьвята — дзякую Вам».

Мінула 12 гадоў і 640 перадачаў. Хацелася-б пажадаць яшчэ столькі, хоць гэта вялікі замах. Даўно ўжо хочацца ўцягнуць у працу маладзейшую асобу, бо патрэбная зьмена, а будучыня выглядае забясьпечанай.

Разьвітваючыся, хачу падзякаваць Вам, дарагія слухачы, за ўдзел і падтрымку. Да сустрэчы ў наступны аўторак той самай парой.

**Міхась Лужынскі**

### НА 200-ГОДЗЬДЗІ АЎСТРАЛІІ

У нядзелю 31 ліпеня адбыўся, зладжаны Камітэтам Паняволеных Народаў пад кіраўніцтвам ягонага старшыні сп-ні Тэрэзы Краль з нагоды 200-гадзьдзя Аўстраліі, даволі гучны канцэрт, ляйтматывам якога была Свабода.

У Камбэрвэле, прыгарадзе Мэльбурну, у канцэртнай залі, удэкараванай нацыянальнымі сьцягамі, быў павешаны плякат з тэкстам паангельску: «Хто гарыць дзеля праўды ў сьвятых цярпеньнях, хто прысьвяціў сваё жыцьцё свабодзе людзей, хто заплакаў па тым, што нявінна церпіць, — таму мая песьня і слава прысьвячаецца».

У канцэрце ўзялі ўдзел Харваты, Кампучыйцы, Латышы, Беларусы, Славакі, Палякі, В'етнамцы, Афганцы, Вэнгерцы, Ірляндцы і Украінцы. Беларусаў рэпрэзэнтаваў мастацкі гурток «Каліна» пад кіраўніцтвам сп-ні Тамары Басарановіч — прыгожа выканаў танец «Сьвеціць месяц».

Сэнатар Джым Шорт у сваёй прамове падкрэсьліў вялікую карысьць, якую дала Аўстраліі іміграцыя, бо ўзбагаціла краіну ня толькі людзьмі з усебаковай ведай, але й багатымі традыцыямі розных народаў.

Канцэрт закончыўся супольным выступленьнем усіх групаў.

Паводля тых, хто быў на гэтай урачыстасьці, канцэрт быў багацейшы за папярэднія і з мастацкага боку і колькасьцяй публікі.

### ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Як і летась, сёлетняя ўрачыстасьць 7-га жніўня пачалася багаслужбай прадстаўнікоў шмат якіх веравызнаньняў у катэдры Сьв. Патрыка. Надвор'е, праўда, не паспрыяла — было холадна й дажджліва — і таму, хіба, было народу менш як летась. Дзеля благога надвор'я і ўрачыстае шэсьце зь вялікім крыжам (які сёлета несьлі Харваты; кожны год крыж нясе іншая нацыянальнасьць) і нацыянальнымі сьцягамі адбылося ня вонках, а ўнутры катэдры. Урачыстую багаслужбу правіў дырэктар каталіцкай іміграцыйнай праграмы а. Джон Мэрфі. Малітвы чыталіся ў мовах армянскай, беларускай (сп-ня Надзя Груша), эстонскай, харвацкай ды іншых. У часе багаслужбы сьпявалі на зьмену літоўскі й польскі хоры.

Настаяцель Оўк-паркаўскай парафіі а. Бэрн расказаў аб тым, як паўстаў камунізм ды пра жудасныя вынікі гэтай нялюдзкай сыстэмы. Урачыстасьць закончылася блаславенствам, якое далі а.а. Бугіс, лютэранін, А. Кулакоўскі, праваслаўны, і І. Мэрфі, каталік, ды паходам з крыжам і нацыянальнымі сьцягамі да выхаду катэдры.

**М. Скабей**

*З ЖЫЦЦЯ Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ*

## ПРЫНЯЦЬЦЕ ДЛЯ СЯМ'І АЙЦА ВАСІЛЯ

Чацьвертага верасьня сёлета прыехала ў ЗША сям'я настаяцеля парафіі Жыровіцкай Маці Божай БАПЦ а. прат. Васіля Андрэюка: матушка Вольга й дзеці Даніла, Таіса й Ліза. Доўгім было чаканьне для а. Васіля і для ўсіх парафіянаў і тым больш радаснай была сустрэча.

Зь ініцыятывы сястрыцтва парафіі было наладжана ў нядзелю 11-га верасьня пасьля багаслужбы прыняцьце для сям'і а. Васіля. На ўрачыстасьць прыбылі ўсе парафіяне, прыяцелі зь іншых парафіяў, госьці зь Нью-Ёрку, Кліўленду ды іншых мясцовасьцяў. Жанчыны падрыхтавалі кожная сваю ўлюбёную страву, з чаго атрымалася вельмі багатае мэню.

Айца Васіля й сям'ю віталі прадстаўнікі парафіяльнай рады, сястрыцтва й грамадзкіх арганізацыяў. Вядучай тэмай гэтых выступленьняў была радасьць, што пасьля году цяжкасьцяў парафія атрымала сьвятара, які сваёй адданасьцяй ды энэргіяй можа спрычыніцца да ейнай кансалідацыі й росквіту. Сёньня, калі сям'я а. Васіля злучаная, будзе лягчэй яму дасягнуць гэтую мэту.

Сярод тых, хто шмат памог а. Васілю, трэба назваць сп-ню Жэню Дубягу, старшыню сястрыцтва парафіі, і сп. Тамаша Супруна, папярэдняга старшыню парафіяльнай рады.

## ЭТНІЧНЫ ФЭСТЫВАЛЬ




*Авангард беларускай групы: дзеці сп-тваў Сапежынскіх, Русак-Грантаў і Рагалевіч-Дутко. Фота Жэні Дубягі.*

Беларусы Нью-Джэрзы й Нью-Ёрку ўзялі ўдзел у 10-м гадавым фэстывалі этнічных групаў, што адбыўся 10 верасьня сёлета ў парку Свабоды, які знаходзіцца недалёка ад статуі Свабоды на ньюджэрзыйскім беразе ракі Гудзон.

Пры цёплым сонечным надвор'і адбыўся парад нацыянальных групаў (Палякі, Галяндцы, Індыяне, Вэнгерцы, Беларусы, Эстонцы, Украінцы, Карэйцы ды інш.), пасьля чаго была праведзеная цырымонія злажэньня прысягі вялікай групай новых грамадзянаў ЗША. На сцэне сярод запрошаных гасьцей сядзеў др. Вітаўт Кіпель, першы старшыня Этнічнае Рады штату Нью-Джэрзы, якая запачаткавала традыцыю этнічных фэстываляў.

У вялікай шматэтнічнай выстаўцы на беларускіх сталох дэманстраваліся й прадаваліся беларускія сувэніры, мастацкія вырабы, інфармацыйная літаратура пра Беларусь. Шэсьць беларускіх сталоў з экспанатамі абслугоўвалі, як і мінулымі гадамі, сп-ні Галіна Русак, Надзя Кудасава (дэманстравала прадзеньне), а таксама Марыя і Кастусь Верабей і сп-ня Ніна Зьгірская.

### ЗЬМЕНЫ Ў ГОРАДНІ

Як падала газ. «Ніва» (28.VIII.88), у Горадні ў выніку «перабудовы» рамантуюцца касьцёлы, «ува ўсіх вядзецца душпастырская дзейнасьць». Зь Беласточчыны ў Горадню езьдзіць цяпер шмат людзей на гандаль: яны вязуць з сабой каву, ванільны цукар, розную касмэтыку, джынсавае адзеньне, а купляюць тэлевізары. З Горадні ў Беласток штадня выяжджае сем цягнікоў, але, як піша «Ніва», гэтага «малавата на сёньняшнія патрэбы», некаторым пасажырам даводзіцца ехаць стоячы ў калідоры.

### ДАДЗЕНЫЯ ПРА ФУНКЦЫЯНЕРАЎ БССР

Бюлетэнь Амэрыканскай Асацыяцыі Славянаведаў (AAASS Newsletter) у верасьнёўскім нумары падаў, што можна набыць біяграфічныя дадзеныя аб блізу трох тысячах асобаў з адміністрацыйнага апарату савецкай Беларусі. Зварачацца трэба на адрас:

Prof. Michael E. Urban
Dept. of Political Science
Auburn University
Auburn, AL 36849
Tel.: (205) 826-5370

### УВАГА! ВЭТЭРАНЫ!

Гэтым паведамляецца ўсім беларускім вэтэранам Усходняга Ўзьбярэжжа пра перавыбарчы сход Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, што адбудзецца ў нядзелю 30 кастрычніка 1988 г. (пачатак а 1-й гадз. папаўдні) у Беларускім Грамадзкім Цэнтры (9 River Rd., Highland Park, N.J.). Будуць рассылацца паведамленьні з парадкам дня. Калі-б хто не атрымаў паведамленьня, просім кіравацца гэтай абвесткай.

Жыве Беларусь!

**Кіраўніцтва ЗБАВ**
**Усходняга Ўзьбярэжжа**

*У БІНіМе Ў НЬЮ-ЁРКУ*

## ПРА ПАДАРОЖЖА Ў ШВЭДЫЮ Й ФІНЛЯНДЫЮ

Дваццатага жніўня ў памешканьні Фундацыі імя П. Крэчэўскага сп-тва Вітаўт і Зора Кіпелі расказалі сябром Інстытуту й запрошаным гасьцём пра свае пошукі беларусікі ў Каралеўскай бібліятэцы ў Стакгольме ды ўва ўнівэрсытэцкіх бібліятэках Упсалі й Гэльсынкаў. У дзьвюх апошніх ёсьць цімала беларускіх выданьняў з 1917-1920 гадоў. Шмат з гэтых друкаў было выкарыстана сп-твам Кіпель для рыхтаванае імі кніжкі (паангельску) «Беларуская Народная Рэспубліка. Хрэстаматыя й бібліяграфія». Расказалі яны таксама аб сваёй нечаканай прыемнай сустрэчы зь беларуска-фінскім мастаком Алесем Вало ды іншымі людзьмі беларускае й небеларускае нацыянальнасьці, што цікавяцца нашай справай.

## БУДАЎНІЦТВА МУЗЭЮ ПАД ПАГРОЗАЙ СПЫНЕНЬНЯ

Кіраўніцтва Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Беластоку зьвярнулася з заклікам да Беларусаў Польшчы й замежжа даваць далейшыя грашовыя ахвяры на пабудову Беларускага музэю ў Гайнаўцы, бо «можа наступіць непажаданы перапынак у будове гэтай вельмі важнай для Беларусаў установы» («Ніва», 28.VII). «Ніва» падала яшчэ раз адрас грамадзкага камітэту пабудовы й нумар конта для перасыланьня замежнай валюты:

Społeczny Komitet Budowy
Zabytków Kultury Białoruskiej
17-200 Hajnówka
ul. Wyzwolenia 6
Poland

Банкавае конта: Narodowy Bank Polski i Oddział w Białymstoku, nr. rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

## ВОЛЬГА КОРБУТ У НЬЮ-ЁРКУ

На пачатку верасьня ў Нью-Ёрк прыехала з мужам Леанідам Барткевічам славутая беларуская спартсмэнка Вольга Корбут. Газэта «Нью-Ёрк Пост» (3.IX), паведамляючы аб іхным прыезьдзе, зьмясьціла фатаздымак з мамэнту, калі Данчык Андрусышын вітае на аэрапорце Олю й Лёню букетам ружаў.

Леанід Барткевіч быў у Нью-Ёрку раней, калі ён сьпяваў у ансамблі «Песьняры». Цяпер ён саліст Беларускага радыё.

Вольга Корбут напісала кніжку «Жыла-была дзяўчынка». Кніжка выйшла сёлета парасейску ў Маскве, а цяпер рыхтуецца англамоўнае выданьне ў Амэрыцы.

Аб прыезьдзе спартсмэнкі пісаў тыднёвік «Тайм» ды іншыя органы друку. Тэлевізійная станцыя Эй-Бі-Сы перадала інтэрв'ю з Оляй Корбут. У Амэрыцы цяпер ёсьць шмат гімнастычных клюбаў, што карыстаюцца сыстэмай Корбут і зацікаўленыя ўтрыманьні лучнасьці зь беларускай спартсмэнкай, якая сваім выступленьнем на мюнхэнскай Алімпіядзе ў 1972 г. запачаткавала рух у жаноцкай гімнастыцы.

### СЭМІНАР АБ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Амэрыканская арганізацыя Citizen Exchange Council (Рада Грамадзкага Абмену), якая займаецца справамі культурнага абмену з Савецкім Саюзам, падае да ведама, што адзін зь ейных сэмінараў адбудзецца ад 1-га да 15-га ліпеня 1989 г. ў Менску. Па далейшую інфармацыю аб сэмінары зварачацца на адрас:

Citizen Exchange Council
18 East 41st Street
New York, N.Y. 10017
Tel.: (212) 889-7960

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| Ул. Набагез | ам.дал. | 100 |
| Ананімна | | 100 |
| В. Рамук | | 50 |
| М. Васілеўская (замiж кветак на магілу с.п. Любы Аўдзей, дарагой мамы Тані Аўдзей і Люсі Пузэ) | | 50 |
| К. Ворт | | 50 |
| Беларусы Манчэстэру (праз сп. В. Тура) | | 50 |
| П. Барысік | | 36 |
| Т. Шыбут | | 25 |
| Я. Канарчук | | 25 |
| К. Акула | | 20 |
| В. Тур | | 20 |
| А. Маркевіч | кан.дал. | 100 |
| А. Хрэноўскі | | 20 |
| Л. Паплаўскі | | 20 |
| М. Кулеш (праз. К. Акулу) | | 20 |
| А. Міцкевіч | аўстр.дал. | 30 |

*Сабрана на 18-й Сустрэчы Беларусаў Пн. Амэрыкі ў Тароньце:*

| | | |
|---|---|---|
| У. Набагез | ам.дал. | 100 |
| Г. Руднік | | 100 |
| М. і В. Махнач | | 50 |
| Арх. Мікалай | | 40 |
| Н. Арсеньнева | | 30 |
| В. Кажан | | 30 |
| Я Сажыч | | 25 |
| К. і Я. Вініцкі | | 25 |
| С. Гутырчык | | 20 |
| В. Богдан | | 20 |
| Ю. Кіпель | | 20 |
| К. Мерляк | | 20 |
| А. Субота | | 20 |
| Л. Корчык | | 20 |
| Р. Станкевіч | | 20 |
| А. Шукелайць | | 20 |
| Я. Запруднік | | 20 |
| К. і М. Верабей | | 10 |
| Б. Плескач | | 10 |
| Ананімна | | 8 |
| | Усяго ам.дал. | 608 |

| | | |
|---|---|---|
| Р. Жук-Грышкевіч | кан.дал. | 50 |
| В. Навіцкі | | 40 |
| Ананімна | | 40 |
| К. Акула | | 30 |
| М. Ганько | | 25 |
| В. Кіпель | | 20 |
| О. Грыцук | | 20 |
| М. і В. Пашкевіч | | 20 |
| З. Кіпель | | 20 |
| В. Касьцюкевіч | | 20 |
| Л. Паплаўскі | | 10 |
| А. Максімюк | | 5 |
| Ананімна | | 4 |
| Э. Жызьнеўская | | 2 |
| | Усяго кан.дал. | 246 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Данілевіча:*

| | |
|---|---|
| В. Дутко | 25 |
| А. Якімовіч | 20 |
| П. Кулеш | 20 |
| М. Бахар | 20 |
| П. Алексы | 20 |
| С. Дубоўскі | 20 |
| М. Касьцюк | 15 |
| К. Барысавец | 15 |
| А. Махнюк | 15 |
| Б. Д. за Г. М. | 15 |
| А. Кузьміч | 15 |
| Усяго | 215 |

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!

**Выдавецтва «Беларус»**

***ГАЗЭТА «БЕЛАРУС» — ВАШАЯ ГАЗЭТА, ПАДТРЫМВАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ ЯЕ.***